ГІЁМ АПАЛІНЭР * ПОЛЬ ЭЛЮАР
ЛУІ АРАГОН * РАБЕР ДЭСНОС
МАРЫС КАРЭМ * ЖАК ПРЭВЕР



*Хіба нявольніцай буду,*
*Слухмянай слугой перакладу?*
*Хіба на момант забуду*
*Уласныя смуткі і радасць?*

*Продкаў магутная сіла*
*(Веру глыбокаю верай),*
*Пэўна, падспудна паіла*
*Паэзія Апалінэра.*

*...Зноў я ў пакутах і стратах!*
*Трывожная, цяжкая мара:*
*Як мне сабраць па зярнятах*
*Магію слоў Элюара?*

Эдзі Агняцвет

* * *

Ніколі змрок святла не пераможа.
Хай вечар журыцца.
Чакайце:
Уранку зноў жыццё трывожна
Пастукае ў акно.
Да нерухомасці пагарду адчувайце!

Я акунаю рукі ў хвалі шчасця.

## МОСТ МІРАБО

Пад мостам Мірабо струменіць Сена,
Нібы каханне наша.
Запомніць трэба, што бядзе на змену
Прыходзіць радасць вокамгненна.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Рука ў руцэ, мы твар у твар стаялі,
Глядзелі вочы ў вочы.
Пад мостам нашых рук рачныя хвалі
Ад позіркаў бясконцых стомлена
змаўкалі.
Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Каханне, як рака, плыве далёка,
Мінае і сплывае.
О, як жыццё ідзе марудным крокам!
Адна надзея ўзнялася высока.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Знікаюць дні і тыдні ўсе таемна.
Ні час і ні каханне не вернуцца назад...
Пад мостам Мірабо адна нязменна
Струменіць Сена.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

## ЗАРУЧЫНЫ

Даруйце мне за невуцтва маё!
Даруйце — не ведаю болей
даўнейшай гульні вершаванай.
Я нічога не ведаю болей
і толькі кахаю.
Ад позірку майго ператвараюцца кветкі
ў полымя.
А я, нібыта багі, разважаю
І ўсміхаюся істотам,
не мною створаным.

Але! Калі б на сконе дня нарэшце
згусціўся цень
І формы разнастайныя майго кахання
ён памножыў, —
Я захапіўся б сваёй працай.

## ПРАКТЫКАВАННЕ

Павольна,
да вёскі, да тылу
Чатыры салдаты ішлі.
Сівыя ад горкага пылу
Галовы і боты былі.

Глядзелі салдаты на поле —
Вярталі мінулыя дні.
І раптам снарад заскуголіў,
А іх не ўстрывожыў, ані!

Гавораць пра сёе, пра тое,
Аб заўтрашнім толькі маўчаць:
Практыкаванне такое
Вучыла салдат паміраць.

## ПЕРАМЕНА

Жанчына заплаканая каля хаты,
Эх, ох, ах!
На пыльнай дарозе на маршы салдаты,
Эх, ох, ах!
Паблізу ад шлюза — з вудай рабочы,
Эх, ох, ах!
І ямы траншэй, як запалыя вочы,
Эх, ох, ах!
Снарады, што бухалі і разрываліся,
Эх, ох, ах!
Запалкі, што болей у рукі не браліся —
Эх, ох, ах!
Усё ва мне з часам заглухла дазвання,
Эх, ох, ах!
Усё,
апрача майго кахання!
Эх, ох, ах!

## СМУТАК АДНОЙ ЗОРКІ

Красуня Мінерва —
лятунак душы тылавой,
Крывавая зорка — карона мая давеку.
Розум — глыбока,
неба — над галавой —
Вось як цікава ўзброіў лёс чалавека.

Гора маё — не горшае ў нашым жыцці,
Бо зоркай стала
амаль смяротная рана.
Але адшукайце — і цяжка будзе знайсці,
Каб гэтулькі смутку ў збалелай душы ветэрана.

Пакуты палаючыя ў сабе і з сабою нясу я;
Так светлячок цягне цела сваё,
што гарыць, палымнее,
У сэрцы салдата так Францыя б'ецца, пульсуе,
Як б'ецца гарачы пылок у сэрцы лілеі.

## РЫЖАЯ КРАСУНЯ

Гляньце! Я ўвесь перад вамі,
поўны сэнсу разумнага:
Я не толькі ўведаў жыццё,
А ўсё, што жывыя
Могуць аб смерці пачуць;
Зведаў горыч і слодыч кахання,
Часам навязваў ідэі свае,
Мовы розныя вывучаў,
Пабываў у вандроўках далёкіх,
І вайну я прайшоў з артылерыяй
і пяхотай.
Ранены ў галаву,
пад хлараформам трэпанаваны,

Страціў я сваіх лепшых сяброў
у жахлівых баях.
Я ведаю столькі аб мінулым
і сучасным,
Колькі можа ведаць адзін чалавек.

Сёння мяне не трывожыць вайна
Паміж намі, сябры, і за нас;
Справядліва мяркую аб сварцы працяглай
Між Традыцыяй і Адкрыццём,
Між Парадкам і вялікім Пошукам.

Вы, надзеленыя вуснамі,
падобнымі да боскіх,
Вуснамі,
якімі размаўляе строй-парадак,
Не судзіце вельмі строга,
параўноўваючы нас
З ідэаламі Парадку!

Мы, шукальнікі,
імкнёмся
Невядомы край адкрыць.
І не ворагі мы вашы!
Для сябе адкрыць жадаем
Незвычайныя ўладанні:
Таямніцу ў кветках яркіх
Знойдуць тыя, хто шукае.
Там — нябачаныя фарбы,
Ззяюць новыя агні,

І міраж, якому трэба
Даць рэальнае жыццё.

Так! Разведаць мы жадаем
Дабрату краіны светлай,
што пакуль яшчэ маўчыць.

Можна час прагнаць са свету
Ці вярнуць яго ізноў.
Літасці мы заслужылі!

Мы ваюем на граніцах
Будучыні і прасторы,
Літасці прашу да нашых
Хібаў і грахоў!

Вось і лета запалала —
Час шалёны надышоў.
І маё юнацтва сёння
Памірае, як вясна.
Сонца смелае ў зеніце —
гэта розуму усход.

Гэта мой чаканы год!
Мне б за ім ісці нязменна,
Каб любоў маю ўвасобіць
У прыгожы, чысты вобраз!

Да мяне прыходзіць шчасце
ў выглядзе Красуні рыжай.
Запалалі косы ўранку:
Быццам пасвяцца маланкі
На пялёстках чайных ружаў.

Людзі, блізкія, далёкія,
Людзі, смейцеся з мяне!
А таму, што надта многа
Ведаю ў жыцці такога,
Пра якое [redacted] адразу
не адважуся сказаць.
Ды і самі вы, напэўна,
не дасцё ўсяго сказаць!
Майце літасць да мяне!

## КАБ УЛАДУ Я МЕЎ[1]

О час! Шлях адзіны ад мяжы далёкай адной
да другой.
Каб уладу я меў, я прымусіў бы
Сэрцы людскія змяніцца
і тады
Засталося б на свеце
Толькі самае лепшае.
Замест вачэй апушчаных,
і кленчання, і мармытання,
Замест адчаю, пакаяння — зрабіў бы ўсюды

---

[1] *Гэты верш быў адным з апошніх твораў Гіёма Апалінэра. Напісаны на бланку шпіталя «Віла Мальер», дзе паэту зрабілі цяжкую аперацыю ў 1916 г. пасля ранення на фронце. Там Апалінэр лячыўся і ў студзені — сакавіку 1918 г.*

Захавальніцы дароў, і чашы, і каўчэгі,
Якія раптам з глыбіні жаданняў
Заззялі б, як багі антычныя;
Яны ўжо свае ролі паэтычныя
Сыгралі амаль да канца.

Каб уладу я меў,
я скупіў бы ўсіх птушак,
Што нудзяцца ў клетках,
і выпусціў іх
На волю.
Стаў бы, радасны, я наглядаць,
як яны пралятаюць
І ўяўлення пры гэтым не маюць
Аб дабрачыннасці, названай падзякаю,
Калі толькі яна не ад сэрца.

# СВАБОДА

На сшытках маіх вучнёўскіх,
На парце маёй, і на дрэвах,
І на пяску, і на снезе —
Пішу тваё імя.

На ўсіх друкаваных аркушах
І на старонках белых,
На камені, крыві і на попеле —
Пішу тваё імя.

На пазалочаных зданнях,
На зброі байцоў адважных,
На каралеўскіх каронах —
Пішу тваё імя.

На джунглях і на пустэльнях,
На гнёздах, на ракіце,
На водгуллі маленства —
Пішу тваё імя.

І на дзівосах ночы,
І на скарынцы хлеба,
І на заручынах вясніх —
Пішу тваё імя.

На ўсіх пералівах блакіту,
На сонцы, застылым у сажалцы,
На возеры ў месяцы ясным —
Пішу тваё імя.

І на палях, і на небе,
На крылах залётных птушак,
На ценях млыноў крылатых —
Пішу тваё імя.

На кожным парыве світання,
На моры, на караблях,
На горнай шалёнай кручы —
Пішу тваё імя.

На белай пене аблокаў,
На цяжкасцях навальніцы
І на дажджы беспрасветным —
Пішу тваё імя.

На формах іскрыстых, звонкіх
І на пераклічцы фарбаў,
На запаветнай праўдзе —
Пішу тваё імя.

На сцежках, якія прачнуліся,
І на шляхах разгорнутых,
І на разводдзі плошчаў —
Пішу тваё імя.

На лямпе, палаючай ярка,
На лямпе, якая гасне,
На хатах, дзе жыў я калісьці —
Пішу тваё імя.

На разрэзаным надвое яблыку
Люстэрка майго і пакою,
На ложку — пустой маёй ракавіне —
Пішу тваё імя.

На маім ласунку-сабачку —
На яго вушах натапыраных,
На лапцы яго нязграбнай —
Пішу тваё імя.

На трампліне майго парога,
На рэчах зусім звычайных
І на агні жыватворным —
Пішу тваё імя.

На кожным сугучным целе,
На тварах маіх таварышаў,
На кожнай руцэ працягнутай —
Пішу тваё імя.

На шкле чалавечых здзіўленняў,
На вуснах уважлівых, чулых,
На вышыні маўчання —
Пішу тваё імя.

На маіх прыстанках разбураных,
На маіх ліхтарах перакуленых,
На сценах маёй маркоты —
Пішу тваё імя.

На незваротным жаданні,
На голай маёй самоце,
На чорных прыступках смерці —
Пішу тваё імя.

На вернутым добрым здароўі,
На небяспецы мінулай,
На новай маёй надзеі —
Пішу тваё імя.

Мне сілу дае гэта слова —
Я зноў жыццё пачынаю.
Народжаны я, каб спазнаць цябе,
Каб назваць цябе,
Свабода.

## ГОЛАДАМ НАВУЧАНА ДЗІЦЯ

Голадам навучана дзіця.
Яно на ўсё адказвае: я ем.
Ты ідзеш? Я ем.
Ты спіш? Я ем.

## У КРАСАВІКУ 1944
## ПАРЫЖ ЯШЧЭ ДЫХАЎ!

Мы ішлі да надзейнай ракі:
ні хвалі яе,
Ні вочы нашы не пакідалі Парыжа.
Не горад маленькі,
але дзяцінства,
мацярынства горад.

Горад праходзіў праз нас,
як летняя сцежка,
Поўная кветак і птушак,
як пацалунак глыбокі,
Поўны вясёлых дзяцей і кволасці матчынай.
Горад не зруйнаваны, але складаны,
адзначаны непрыкрытасцю.
Горад між напасцяў нашых,
як зламаныя ланцугі.
Ён перад вачыма нашымі, як вочы маці...
Горад: яго паўтараем, як вершы.
Горад падобны толькі на сябе самога.

Горад стары... Паміж горадам і чалавекам
Не было больш ніякай сцяны.
Горад празрыстасці, горад няхітрасці.
Паміж самотным чалавекам
і пустэльным горадам
Было толькі люстра адно.
Быў толькі горад у колерах чалавека,
Крыві і цела, зямлі і яе сокаў.

Дзень гуляе ў струменях ракі,
ноч знікае на зямлі.
Рытмы паветра — чысцей і мацней, чым вайна.
Горад руку сяброўскую працягвае,
гэта свет смеху,
Свет радасці; горад — наша гордасць.
Ніхто не здолеў разбурыць масты,
Якія нас вялі ад сну да мары,
Ад нашых மараў —
да бясконцага жыцця.
Вечны горад, дзе й дажыў
да нашай перамогі над смерцю.

## МОВА КОЛЕРАЎ

Есць колеры мужчынскага і жаночага,
Свежых кветак і рынкавых фруктаў нясвежых,
Музычных сугуччаў і ночы сыноў-туманоў.
Колеры — я вочы расплюшчыў, і ўсё ажыло,
Колеры — і ўсё стала шэрым, і хочацца плакаць.

Колеры сілы, жадання і страху,
Колеры кахання і заўтрашніх дзён.
Колеры злачынства, шаленства,
паўстання, адвагі.
Там чуецца смех, дзе аголены колеры шчасця.
Есць «розуму» колеры, што нас атупляюць.

І ўсюды ёсць розум, што нас узвышае.
Пульсуе жыццё на дарогах планеты.
Колеры роспачы нас раздзіраюць,
І слепяць нас колеры бяссонніцы,
Але нараджаецца дзень прыгажосці, дабра.

Сэрца маё напалову марнее ў бядзе,
Сэрца другая палова — ў святле,
ў спадзяванні.

Я адлюстроўваю прагу здаровага цела,
У бітвах жыццёвых п'янею
ў змаганні за шчасце.

Бачу ў людзях святло і знаходжу
сваю перамогу.

## ДОБРАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Гэта гарачы закон людскі:
З вінаграду рабіць віно,
З вугалля рабіць агонь,
З пацалункаў — людзей.

Гэта суровы закон людскі:
Годнасць сваю трымаць,
Не зважаючы на вайну,
На нядолю і нават на смерць.

Гэта добры закон людскі:
Электрычнасць рабіць з вады,

З летуценняў — прыгожы свет,
З лютых ворагаў — шчырых сяброў.

Гэты адвечны і новы закон:
Дасканаласць знаходзіць сваю
У дзіцячай чыстай душы
І ў розуме найвышэйшым.

## МЫ ЎДВАІХ

Мы ўдваіх. Трымаемся за рукі.
Нам здаецца, што мы ўсюды — дома:
Ці пад дрэвам, ці пад небам чорным,
Ці пад дахам, дзе агеньчык ёсць,
На вуліцы пустой, бязлюднай,
У збянтэжаных вачах натоўпу,
Сярод мудрацоў, сярод вар'ятаў,
Сярод дзяцей, сярод дарослых...
Каханне таямніц не мае:
Мы ўдваіх, і кожны бачыць нас.
І ўсім закаханым здаецца —
Яны з намі разам.

# І ЎСМЕШКА

Няма на свеце непрагляднай цемры.
Паверце мне, калі [illegible] вам кажу,
Калі сцвярджаю,
Што нават у пякельнай той журбоце
Ёсць светлае акно, адчыненае насцеж,
Напагатове мара ёсць на свеце,
Жаданне ёсць, якое здзейсніць трэба.
На свеце сэрца ёсць праўдзівае,
І поціск рук надзейных,
І ўважлівыя вочы,
І ёсць жыццё, якое хоча
Святлом дзяліцца з іншымі людзьмі.

# ФРАНЦУЗСКІ МАРШ

*Гэты верш напісаны*
*ў час другой сусветнай вайны*

Калі прыходзіць час бяды,
Няволі, здрадніцтва, жуды, —
Вада чарнее ад маны,
А слёзы свецяцца адны.

Навокал чуцен крык вар'ятаў,
І махляроў, і супастатаў,
І каршуноў зялёных зграя
Прасторы нашы закрывае.

Яны сказалі: — Галадайце,
А нам апошні хлеб аддайце!
Сказалі: — Кнігі — пад адхон!
Прыслужвай пану — вось закон!

— Марнейце ў холадзе! — сказалі
І ланцугом зямлю скавалі.
Сказалі нам: — Уніз глядзець,
Навек скарыцца і знямець!

Сказалі: — На калені ўсіх!
За дрот калючы — маладых!
Адных — за кратамі знявечылі,
Пагналі іншых у Нямеччыну...

Ды ёсць яшчэ і П'ер і Жан —
Кагорты юных парыжан!

Дык не згінацца, а гарэць —
Паставіць на калені смерць!

Не для прыгод абы-якіх
І не для помнікаў старых,
А для радзімы дарагой —
Ваюем з чорнаю ардой!

Прагнаць грабежнікаў праклятых,
Страляць у злодзеяў і катаў!
Зямлю ачысціць мы павінны
І славу адстаяць краіны!

Завулак кожны, сад і краскі
Мы вырвем з лютых рук германскіх!

І агарод, і свіран кожны
Нам вырваць трэба з рук варожых!
Узгоркі вырвем, і лагчыны,
І могільнікі, і хаціны.

І рыбку ў сажалцы малой,
Арэхі ў просіні лясной,
І скалы цёмныя, і горы,
Дзе столькі ёсць крыві і гора!

Хутчэй, хутчэй ачысціць трэба
Ад хмар і ад фашыстаў неба!
Усё, што сэрцам любім, — самі
Сваімі вызвалім рукамі!

## НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ ВАРТА ЖЫЦЬ

Рэч дзіўная, урэшце, гэты свет.
І я пайду, не дасказаўшы слова.
Усё што меў:
                    і поўдзень васільковы,
Пажар і ноч пакіне вам паэт.

Магчыма, перабольшваю я ў нечым.
Пакіну іншым неба і зямлю:
Ім — травы песціць,
                              вымаўляць «люблю»
І марыць, і маўчаць пяшчотна ўвечар.

Так, іншым трэба шлях прадоўжыць мой —
Сустрэчнаму дзіцяці усміхацца,
На покліч падарожных адгукацца,
Да хмаркі прыглядацца веснавой.

Заўсёды будзе юных трапятанне —
Тых, хто зару сустрэне першы раз.
Святло, вада, вятры —
                              усё для вас!
І толькі падарожніка не стане...

Я не магу дагэтуль зразумець,
Чаму аб смерці думаць людзям страшна?

Ці не хапіла сонца сцежкам вашым,
ці не змагло, ласкавае, сагрэць?

Я ведаю:
жыццё нібы кароткі крок.
І радасці,
і смутак нечаканы
Ўцякаюць з кубка, поўнага
віном падманным.
Для нашай смагі — мора, як глыток.

Аднак, нягледзячы на злосныя часіны,
дзе спусташэнні ў сэрцы,
на спіне — цяжар,
Дзе лета не відаць з-за шэрых хмар,
Дзе гора горкае кладзе на твар маршчыны,

Нягледзячы на войны, дэспатызм,
тугу,
О Божа мой,
свой сум да самай смерці,
Як хлопчык крадзенае, я хаваць змагу.

Нягледзячы на кпіны, злосць, хімеры
Тых, хто не маюць розуму свайго,
І толькі робяць турмы з усяго —
З тваёй любові, спадзяванняў, веры;

Нягледзячы на ямы дзён праклятых,
Нягледзячы на ночы з ненавісных сноў,

Нягледзячы на ворагаў —
майстроў ад кайданоў,

Мой бог,
нягледзячы на страхалюдаў-катаў;

Нягледзячы на ўзрост, на сэрца перабоі,
Насуперак нястомным плеткарам —
Зласліва-раўнадушным, калі кепска вам,
І здзеклівым над вашаю журбою, —

Тым, хто шпурляюць мне анучы ў твар,
Хто ў лютасці гатоў з майго смяяцца скону,
Калі ўжо не змагу
ні крыкам, ні праклёнам
Аблегчыць ашалелых дум цяжар...

Нягледзячы на пекла, на кашмары,
На раны цяжкія,
на ўсё, што я сцярпеў, —
Свайго блакіту я пакінуць не хацеў —
З сваёй дурною верай жыў і марыў.

Жыццём, кажу вам, трэба даражыць,
Нягледзячы на ўсё, што ні было, паверце!
Я дзякую — маё гаворыць сэрца.
Жыццё прыгожае —
на свеце варта жыць!

# ПЕСНЯ МІРУ

Супыніце агонь супраць вёсак і гарадоў,
Супраць мірных лугоў, і палёў,
і зялёных бароў!
Супраць дрэва і даху, супраць лавак
і супраць сталоў,
Супраць мора, дзе рыбы, і хвалі,
і святло караблёў,
Супраць неба, дзе ўзняты
адважныя крылы арлоў,
Супраць каменя з даўніх вякоў —
у скульптуры ажыць ён гатоў;
Супраць сілы жыцця, што ідзе
ад бацькоў да бацькоў.
СУПЫНІЦЕ АГОНЬ супраць маці і сына яе,
Супраць сэрца, якому яна сэрца ўсё аддае!

СУПЫНІЦЕ АГОНЬ супраць
ціхіх сцяжынак лясных,
Дзе чуваць толькі крокі закаханых адных!
Супыніце агонь супраць ясных вачэй маладых,
Супраць мары, якая трывожыць і радуе іх,
Супраць губ непрадажных і строгіх,
таму й дарагіх,
Але ў міг запаветны яны цешаць ласкаю слых.
СУПЫНІЦЕ АГОНЬ супраць шчасця
і добрых надзей,
СУПЫНІЦЕ АГОНЬ,
каб палалі пачуцці людзей!

СУПЫНІЦЕ АГОНЬ супраць класаў,
катком і садоў,
Супраць ясляў, дзе звонка
ад тоненькіх галасоў,
Супраць смеху дзяцей, што глядзяць
на палёт галубоў,
І асфальту, дзе крэйдай малююць абрысы дамоў,
Супраць снежак, і лыж, і сняданкаў,
і школьных званкоў,
Супраць жмурак, арэляў, і мячыкаў, і гарадкоў;
Супраць першага сшытка, дзе літары
будучых слоў!
А сальфеджыо гукі! До-рэ-мі-фа-соль-ля!
Слодыч першых старонак! Ці тое
шчэ будзе пасля?!
Супыніце агонь супраць
рук — зачынальніц дарог,
Супраць рук — гэтых творцаў усіх
на зямлі перамог!
Антрацыт здабываюць, прыносяць
цяпло на парог,
Рукі сеюць, будуюць, вараць сталь,
дружна складваюць стог,
У навуцы дзівосы шукаюць, развейваюць змрок.
Колькі поту, пакуты і колькі будзённых трывог
Ім каштуе жыцця чалавечага крок!
Не жадаюць знішчэння ні гэты, ні будучы век!
СУПЫНІЦЕ АГОНЬ, каб наперад ішоў Чалавек!

2. Зак. 1162.

РАБЕР ДЭСНОС



## КУПЛЕТ ПРА ШКЛЯНКУ ВІНА

Калі цягнік кранецца, —
не махай услед вагонам
Ні хусткай,
ні рукой,
ні парасонам.
Прашу цябе — напоўні шклянку
Полымем віна
І выпі да самога дна
Ўслед цягніку майму!
Каб кінулася полымя за мною —
Пякучае, жывое,
Пакінуўшы чырвоны след
На вуснах дарагіх
Тваіх.

## АПОШНІ ВЕРШ

Я так доўга марыў пра цябе,
Я так многа хадзіў і пакутаваў,
Я так моцна любіў твой цень,
Што цяпер у мяне ад цябе
не засталося нічога.
Адно засталося:
быць ценем у свеце ценяў,
Быць самым большым ценем,
Каб у сонечным жыцці тваім
Ізноў, ізноў прыходзіць да цябе.

## ЗЕБРА

Зебра выбегла са змроку,
І бразготкай зазваніла,
І, адно скасіўшы вока,
З усяе заржала сілы.

Зебра выскачыла з стайні,
Свежай цешыцца травою,
То памчыцца, то прыстане!
Сонца майскае — над ёю.

Толькі след на целе паласаты —
Гэты цень ад цёмных кратаў.

## МУРАШКА

Як мурашка падрастае —
Васемнаццаць метраў мае
Гэта — казка-небыліца!

Цягне воз яна да хмары,
А на возе — трутні-скнары...
Гэта — байка-небыліца!

А мурашка размаўляе
Па-французску, па-гаванску.
Гэта — казка-небыліца!
Хто ў такую верыць казку?

# СВЕТЛЯЧОК

Выходзіць ноччу светлячок,
Пад светлай зоркай загараецца.
На Месяц скокне — скок ды скок! —
Ён разглядае свет, здзіўляецца.

А Месяц — горад светлячкоў;
Па небе ён паплыў, пайшоў...
Нясе ён дзецям,
Спячым дзецям
Лятункі-мары
З хаткі ў хатку —
Па парадку.

## ВАЙНА

Вы забіваеце лес,
бязглуздыя,
вы забіваеце!
Юныя дрэвы старым тапаром
высякаеце.
Вы забіваеце лес,
бязглуздыя,
вы забіваеце!
А дрэвы старыя з карэннем гнілым
вы пакідаеце.
І таблічкі да іх
прыбіваеце:
«Дрэва дабра і зла»,
«Дрэва перамогі»,
«Дрэва свабоды».
І ў лесе спустошаным
дрэвы-пачвары трухлеюць,
і птушкі адлятаюць прэч.
А вам, бязглуздым, заставацца там —
песні свае спяваць
і маршыраваць!

## ПЕСНЯ САРДЗІНШЧЫЦ

Кружацца ды кружацца
Маленькія дзяўчаткі,
Кружацца ля фабрыкі —

Праца, праца там!
Дочкі вы рыбацкія,
Дочкі вы батрацкія,
Ну, хутчэй кружыцеся,
Будзе праца вам!

Да калысак вашых
Прыляталі феі,
Уладары палацаў
Падкупілі іх —
Феі вам прарочылі
Горыч дзён цяжкіх.

Жыць вам у няшчасці,
Будуць у вас дзеці,
Многа іх прыбудзе,
Ім у горы жыць.
Дзеці вас паўтораць:
Будуць у іх дзеці,
Многа іх прыбудзе,
Каб тужыць, тужыць!
І дзяцей тых дзеці
Будуць цяжка жыць.

І многа будзе, многа
Усіх дзяцей,
Дзяцей!
Кружацца ды кружацца
Маленькія дзяўчаткі,
Кружацца ля фабрыкі —

Праца, праца там!
Дочкі вы рыбацкія,
Дочкі вы батрацкія,
Ну, хутчэй кружыцеся,
Будзе праца вам!

## Я — ГЭТА Я

Я — гэта я,
Іншай быць не хачу.
Як хачу засмяяцца —
Аж да слёз рагачу.
Палюбіла — люблю,
Разлюбіла — пакіну!
І нямілых, нясветлых
Ці ж кахаць я павінна?
Я — гэта я,
Іншай быць не хачу.
Што вам трэба яшчэ?
Не шукайце прычыны!
Падабаюся я,
Ды іначай не будзе!
Тонкі, гнуткі мой стан
І высокія грудзі.
Вельмі ж лёгка я крочу?
Вельмі яркія вочы?
Хіба варта яно
Гэткай вашай трывогі?

Я такая, як ёсць —
Падабаюся многім.
Хіба варта яно
Гэткай вашай трывогі?
Так! Кахала кагосьці.
Так! Кахаў мяне хтось.
Па-дзіцячы проста,
Я любіла, любіла.
Дык навошта пытацца?
Буду вам падабацца!
І не зменіць мяне
Аніякая сіла!

## ПАРЫЖ УНАЧЫ

Тры запалкі запальваю ноччу —
адну за другой.
Першая — бачыць хачу твае рысы поўнасцю,
Другая — каб вочы ўбачыць твае,
Апошняя — каб вусны ўбачыць твае.
І, цябе абдымаючы, помніць аб гэтым
Пад небам начным,
беспрасветным...

## ЗГУБЛЕНЫ ЧАС

Ля брамы фабрычнай
Раптам спыніўся рабочы.
Прычына была:
                    за крысо
Пацягнула яго вясна.
Ён павярнуўся і глянуў
На сонца яснае
І на неба шчаснае.
І прыжмурыўся рабочы:
— Скажы, таварыш Сонца,
Мне проста ў вочы,
Ці ж не лухта, не дрэнь —
Гаспадару аддаць
Такі пагодны дзень?

## ПАЦАЛУЙ МЯНЕ

Гэта было ў далёкім квартале Сусвету:
Там заўсёды імгла
                    і сцюдзёнае лета,
Там узімку і ўлетку мароз
І паветра мала.
Быў ён поплеч з дзяўчынай,
Стаялі ў пад'ездзе абое.
І ноч выпаўзала
З-пад вышак і змрочных кутоў.

Пахла серай, бо зранку
Там труцілі клапоў.
І яна гаварыла яму:
— Тут заўсёды імгла,
І ўзімку, і ўлетку — мароз,
І паветра мала:
Не загляне сонца
Ў наша аконца,
Служыць яно ў багатых кварталах.

Ты мяне абдымі, абдымі,
Наша жыццё — толькі тое, што сёння.
Будзе позна пасля.
Тут усё супраць нас.
Лютай сцюжай — нам кепска,
У спякоту — нам кепска.
Тут заўсёды зіма,
Тут паветра няма.
Абдымі, бо інакш — я памру.
Мне пятнаццаць.
Пятнаццаць табе.
Разам нам ужо трыццаць гадоў.
На работу пара ўжо наймацца,
Бачыш — поўныя маем правы
Цалавацца.
Не паспеем пазней.
Ты хутчэй пацалуй мяне.
Наша жыццё — толькі тое, што сёння.

## УСЕ МЕНЕЙ І МЕНЕЙ

Усё меней і меней на свеце лясоў:
Іх вынішчаюць,
Іх забіваюць,
Іх сартыруюць
І ў ход пускаюць,
Ператвараюць
У папяровую масу,
З якой вылятаюць мільярды газетных лістоў:
Яны ж настойліва ўнушаюць публіцы,
Як страшэнна небяспечна
вынішчэнне лясоў!

## ЦЫРК

Утаймавальнік кладзе сваю галаву
У ільвіную пашчу.
Я кладу толькі два пальцы
У глотку вышэйшага свету.
І ён, ледзь сціскаючы сківіцы,
Выплёўвае кропельку жоўці:
Залатую манету...

У кожнага свой цырк,
Панове!

## МУЗЫКА

Напачатку
у іх глухія вочы,
Сляпыя вушы
І аднарукія рукі.

Калі ж іншыя
Назавуць музыку музыкай,
Прызнаючы яе недарэмнасць —
Пачынае дзейнічаць
Барабанная перапонка ў глухіх,
І яны так шалёна пляскаюць у далоні,
Быццам лупцуюць малых.

## КАЛІ...

Калі ільвяня за першай здабычай
Імчыцца —
Маладзее ільвіца.
Калі агонь свой паказвае ўладу, —
Зямля рада:
Над зямлёй бліскавіца.
Калі смерць пра любоў разважае, —
Жыццё ад жуды сціскаецца.
Калі зданню смерці палохаюць каханне,—
Каханне ўсміхаецца.

## ДЗВЕРЫ

Іх разлучылі дзверы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Абое зусім змучыліся!
Змянілі знарок
Кручок і замок.

Замок вісячы, дзедаўскі
Быў вінаваты...
Купілі французскі, новы —
З спружынай сталёвай,
З цнатліваю зашчапкай.

Але дзверы ўсё роўна адчыняліся,
У пакой урываліся
І, прысеўшы на край тахты,
Пачыналі рыпець.
Што рабіць закаханым?
Давялося расстацца.
І ўсё з-за гэтых дзвярэй,
Што мелі ахвоту
Не ў час адчыняцца...

## СНЕГАВІК

Сіняй ноччу скача белы коннік
З люлькаю драўлянаю ў зубах.
А яго пякучы холад гоніць.
Белы шлях, марозны шлях!

Вось і вёска! Ціха. Ані гуку.
Але ён да цішыні прывык.
У хацінку першую, без стуку,
Уваходзіць снегавік.

Адагрэцца белы коннік хоча,
Сеў ля печы цёплай і дрыжыць.
І... раптоўна знік ён сярод ночы,
Толькі лужына блішчыць.

І пакінуў па сабе старэча:
На падлозе мокрыя сляды,
Капялюшык зношаны — ля печы,
Люльку ў лужыне вады...

## КАБ НАМАЛЯВАЦЬ ПАРТРЭТ ПТУШКІ

Намалюйце спачатку клетку —
адчыніце шырока дзверцы,
намалюйце затым

штосьці прыгожае,
штосьці простае,
штосьці добрае,
штосьці неабходнае
для птушкі.
Прыхіліце сваё палатно да дрэва
ў дуброве,
у садзе
альбо ў пушчы,
схавайцеся за дрэвам —
ні слова, ні гуку,
ні руху...
Часам птушка прылятае хутка,
А бывае, мінаюць год за годам
без аніводнай сустрэчы.
Не траціце надзеі,
чакайце!
Чакайце, калі трэба,
бо хуткі ці доўгі прылёт гэтай птушкі
не мае ніякіх адносін
да поспеху вашай карціны.
А з'явіцца птушка —
(каб толькі з'явілася!) —
упарта маўчыце,
чакайце,
пакуль заляціць яна ў клетку:
і калі заляцела, —
зачыніце паціху
дзверцы пэндзалем.

Потым

тую клетку, пруток за пруточкам,
сатрыце,
ані пёрка птушынага
не закраніце.
Намалюйце вясёлае дрэва,
знайдзіце для птушкі
найлепшую ў свеце галінку,
намалюйце зялёнае лісце,
свежы вецер,
                    пылінкі ў праменнях,
і камарыкаў гул,
ды гарачае лета!
Потым трэба чакаць,
каб яна заспявала.
Ваша птушка не хоча спяваць?
Нядобрая гэта прыкмета,
знак, што кепская ваша карціна...
А калі запяе, —
гэта добрая вельмі прыкмета,
знак,
          што можаце вы падпісацца:
пёрка ў птушкі пазычце ласкава
і сваё напішыце імя
ў куточку карціны.

# ШПАЦЫР ПІКАСО

На круглай талерцы рэальнай,
фарфоравай
пазіруе яблык.
Насупраць яго
мастак (ён не выдумшчык)
дарэмна спрабуе
да кроплі, як ёсць,
змаляваць гэты яблык.
Але
фрукт упарты,
ён не даецца!
У яблыка —
думка свая
і характар няпросты,
і ён пачынае круціцца
на круглай талерцы рэальнай,
украдліва, хітра круціцца
наўкола самога сябе:
падобны да герцага Гіза,
што званне з адзеннем
дазвання змяніў,
каб нехта партрэта з яго не зрабіў.
І яблык, па волі сваёй,
становіцца незнаёмцам.
Мастак-капіст прыкмячае,
што ў вобразах розных —
яблык супраць яго!
І як нейкі няшчасны няўдачнік,

як жабрак,
апынуўся мастак у палоне
бязлітасных асацыяцый
дабрачыннасці, міласэрнасці
і лютасці.

Пунктуальны, старанны мастак
становіцца сумнай ахвярай
натоўпу асацыятыўных ідэй.
Яблык круціцца,
і ўзнікаюць у памяці:
Рай зямны,
Ева з Адамам,
лейка, лесвіца, аграном Парманцье,
Канада, Нармандыя,
яблык райскі ранет,
спакуснік-яблык, сакавіты яблык,
і першародны грэх,
і першае мастацтва,
Швейцарыя, ■ з ёй — Вільгельм Тэль
І нават сам Ісаак Ньютон,
адзначаны не раз
на Выстаўцы зямнога прыцягненн
І ўжо мастак разгублены
губляе свой аб'ект
і засынае.
У гэты час шпацыраваў
і на хвіліну затрымаўся Пікасо.
Ён тут і ўсюды
адчуваў сябе як дома.

Убачыў яблык на талерцы
і мастака заснуўшага.

«Што за ідэя — яблык маляваць?» —
Прамовіў Пікасо.
Ён яблык з'еў,
і яблык кажа: дзякуй.
І Пікасо талерку разбівае,
ўсміхаецца, ідзе далей.
А як мастак? Ён вырваны са сноў сваіх,
нібыта зуб,

сядзіць перад няскончанай карцінай.
А на зямлі — асколкі
разбітае талеркі,
жахлівыя ў рэальнасці сваёй.

## ДЛЯ ЦЯБЕ, МАЁ КАХАННЕ

Я пайшоў на птушыны кірмаш
і птушак купіў
для цябе,
Каханая.

Я на кветкавы рынак пайшоў
і ружы купіў
для цябе,
Каханая.
Я на рынак старых жалязакаў

пайшоў,
і купіў я ланцуг,
самы цяжкі ланцуг,
для цябе,
Каханая.

Там, дзе продаж нявольніц, —
пабываў я пасля
і цябе я шукаў,
ды цябе не знайшоў,
Каханая.

## ВЯЛІКІ ЧАЛАВЕК

У закройшчыка каменя
яго [redacted] спаткаў,
стаяў ён, да славы ласы.
Ён прагнуў, каб мерку знімалі з яго
Для будучага часу.

## ДЗІВАКАВАТЫ ВУЧАНЬ

«Не» гавораць яго губы,
«Так» гаворыць яго сэрца.
Ён гаворыць «так»
усяму, што люба.

Ен гаворыць «не» педагогу.
Ен адказвае ля дошкі.
Яму задаюць пытанні,
прапануюць задачы,
практыкаванні.

І раптам, ашалелы ад смеху,
Ен сцірае ўсё з дошкі:
словы і лічбы,
імёны і даты,
хітрамудрыя пасткі — сцірае!

І няхай педагог пагражае,
і няхай вундэркінды крычаць, —
кавалкамі рознаколернай крэйды
на чорнай дошцы гора
Ен малюе аблічча шчасця.

## ГАЛОДНЫ РАНАК

Ціхі стук,
калі разбіваюць аб стойку
яйка крутое, —
ён страшны.
Ен страшны, гэты ціхі стук,
калі ўсплывае ў памяці
страшэнна-галоднага чалавека.
А шостай гадзіне раніцы
чалавек глядзіць на вітрыны магазіна:

ён не бачыць сваёй галавы
пыльнага колеру,
яму начхаць на свой адбітак,
амаль забыты.
Мроіцца іншая галава чалавеку.
Напрыклад, цялячая
з падліўкай смачнай
альбо іншая галава (такой бяды),
абы прыдатная да яды.
І паціху варушацца сківіцы ў чалавека,
паціху.
І ён зубамі паціху скрыгоча,
бо свет, які закупіў яго галаву, рагоча!
Што ён адкажа гэтаму свету?
І ён пачынае лічыць па пальцах:
раз, два, тры,
раз, два, тры.
Тры дні і скарынкі ў руцэ не трымаў
І дарэмна тры дні сам сабе паўтараў:
«Гэтак трываць немагчыма болей!»
Тры дні
і тры ночы
галоднага болю...
А за вітрынамі —
пірагі, бутэлькі, кансервы,
мёртвыя рыбкі ў кансервных банках,
банкі, банкі за вітрынамі!
Вітрыны пад аховаю паліцэйскіх,
паліцэйскія пад аховаю страху:
колькі барыкад для шасці няшчасных сардын!..

А недзе воддаль — дзверы закусачнай,
кава са смятанкай, булачкі гарачыя —
чалавек хістаецца,
і ў галаве яго туман слоў,
туман слоў —
сардзіны ў банках,
крутыя яйкі,
кава са смятанкай,
кава з ромам,
кава са смятанкай,
узбітая смятанка,
забітая смятанка,
кава з крывёй...

Адзін чалавек, вельмі паважаны
                              ў сваім квартале,
быў зарэзаны сярод белага дня:
забойца-валацуга ўкраў у яго
два франкі.
А гэта азначае:
                    кава са смятанкай
(семьдзесят пяць сантымаў),
дзве лустачкі хлеба з маслам
і дваццаць пяць сантымаў —
                              на чай афіцыянту.
Ён страшны,
гэты ціхі стук,
калі разбіваюць аб стойку
                              яйка крутое.

Ён страшны,
калі ўсплывае ў памяці
страшэнна-галоднага чалавека.

## ПЕСНЯ ПРА СЕНУ

О, як шанцуе Сене!
Няма ў яе турбот:
Плыве сабе спакойна
І дзень, і ноч, і год.

Бясшумная,
з вытокаў
Цячэ яна паміж
Прыціхлых лозаў ніцых.
Але размах які ж!
Памкнулася да мора,
Калі прайшла Парыж.

О, як шанцуе Сене!
Няма ў яе турбот.
А пойдзе прагуляцца —
Зялёнай сукні ўзлёт
Між набярэжных свеціць,
Мільгае тут і там.
Глядзіць услед раўнівы
І строгі Нотр-Дам.
З вышынь каменных сочыць,
Не зварухнецца сам.

Ды не зважае Сена,
Няма ў яе турбот:
Плыве сабе спакойна
І дзень, і ноч, і год.
Да Гаўра і да мора
Пайшла без перашкод,
Як цені летуцення:
Між таямніц Парыжа,
Сярод яго нягод.

## КАЛІ СА ШКОЛЫ ВЫБЕГЛІ

Калі са школы выбеглі,
Сустрэлі мы чыгунку,
Вакол зямнога шара
Яна павезла нас.
І ўжо сінее мора
Не толькі на малюнку!
Тут ракавінкі,
выспы
І крабы ёсць якраз.

Плылі па моры караблі,
Што часам затануць маглі.
Пасля сустрэлі месяц
І зоры ў паднябессі,
На ўсход яны спяшаліся
З вятрамі заадно.

А на падводнай лодцы
Плылі тры мушкецёры
І ўсё круцілі рычагі,
Спускаліся на дно:
Сярод каменьчыкаў малых
Шукалі вожыкаў марскіх.

Мы на цягнік вярнуліся,
Наўкола азірнуліся,
Убачылі зіму
І дом, які ўцякае,
Бо сцюжа дапякае!
Як памагчы яму?

Каціўся дом,
Блакітны дом
Праз горы, праз імшары
Вакол зямнога шара:
Ён ад пагоні ратаваўся,
Ўцякаў ён ад зімы.
Цягнік ляцеў,
цягнік спяшаўся,
Зіму здагналі мы.
І тут загінула яна!
Насустрач нам ішла вясна.

Мы ўратавалі ціхі дом.
І падняліся кветкі
Пад кожным сонечным акном
І на лугах-палетках.

Яны ўзышлі на ўсёй планеце,
І столькі вырасла суквеццяў —
Чыгунка павярнула ўбок!
І мы вярталіся здалёк
Не цягніком, а самі —
Дрымучымі лясамі
І зорнымі шляхамі —
  Вакол зямнога шара,
  Праз горы, праз імшары —
  На караблі зялёным,
  І пехатой, і конна!

## КРЫНІЧНАЯ ВУЛІЦА

Я нарадзіўся ў цяжкі дзень нястачы,
Але на вуліцы крынічнай свет я ўбачыў.

Багацця хата родная не мела,
Але была бялізна, як снег, бела.

Зусім паблізу Дыль-рака цякла,
Святочная ад кветак і святла.

Я помню: маці слухае яе,
Ды і сама у тон пяе, пяе.

Маляр, мой бацька, падымаўся ў неба,
А лескі — ластаўкі яго! Што болей трэба?

І там, наверсе, паміж птушак вясніх,
Такія добрыя прыняў ён песні.

Што ўжо ўначы, пад столлю нізкай,
Сама сабой мая гайдалася калыска.

Скажыце мне: ці могуць у жыцці
Без песень людзі ў радасці расці?

І я спяваў, калі качаў бярвенне
(Няхай жывуць чабор і зверабой!).

Я часта вам спяваў для весялення,
А часам песню выклікаў журбой.

Так ландыш у лясным паветры
Трымціць пад красавіцкім ветрам.

Спяваў я, каб спяваць — не для санетаў!
А проста гэтак, як ідзе жыццё.
Спяваў: так гнецца ля ракі трысцё,
Так месяц свеціць на пачатку лета.

## ДРАЎЛЯНЫЯ НОГІ

Калі маеш драўляныя ногі —
Не памчышся!
　　　　　　Пры чым тут жаданне?
Так гавораць салдаты з трывогай —
Абаронцы ўсіх панаванняў.

Праўду кажуць:
　　　　　　калі давядзецца
Пасадзіць сад вішнёвы ў зацішшы, —
Можна потым, хоць з кожнага дрэўца,
Зняць у ліпені некалькі вішань.

А калі пасадзіць дзеравякі —
Ногі з войнаў, што грукалі ўсюды,
Мог бы вырасці лес аж пад хмаркі,
Дзе і птушкі, і папараць-цуда...

Толькі б слёз не хапіла ні ў кога —
Арасіць хоць бы ўзгорак у полі.
І не могуць драўляныя ногі
Прарасці без карэння.
Ніколі.

## ВАЕННЫЯ МОГІЛКІ

Колькі тут мёртвых для беднай травы,
Колькі крыжоў для птушкі адной!
Над імі — дубы (кожны дуб — вартавы)
І неба з пагардлівай вышынёй.

Праходзіць паблізу статак кароў,
Іх, абыякавых, пасвіць дзень.
Не ўбачыць салдату зялёных бароў!
Імя на жалезе, як чэзлы цень...

Усё тут спакойна,
ніякіх падзей.
Не ведаю сам:
і чаго я прыйшоў?
Стаю, анямелы, ля чорных крыжоў.
Навошта загінула столькі людзей?

# КАЛІ З ВАЙНЫ ВЯРТАЕЦЦА МАРАК...

Калі ён з трапа на зямлю ідзе,
Усім відаць татуіроўкі знак.
Калі з вайны вяртаецца марак,
Порт — дагары нагамі — аж гудзе!

І тут як найхутчэй імкнецца ён
Знайсці свой дом — свайго дзяцінства дні,
Знайсці святло маленькіх трох акон,
Што на прастор глядзелі ў цішыні.

Якія сталі маці і сястра?
Ці тут нявеста і яе любоў?
Тут больш дамоў...
                    Інакшая пара!
Душы ніводнай роднай не знайшоў...

Самотны, сеў на камень.
                    Як тут быць?
Пасля ўсяго,
               што можа ён зрабіць?
Няўжо адно — пайсці з жыцця?
Марак-смяльчак заплакаў, як дзіця.

## ЗОЛАТА

Ен падарыў ёй калье залатое.
Мала ёй! Захацелася мець і другое:
Пальчаткі, панчохі і туфлікі з золата,
Сукенкі і шалі з чыстага золата.
Нарэшце ўся яна ў золаце золкім —
Посуд і ложак, ключы і прыколкі.
На сценах вісяць дываны залатыя,
Ніткі ў бялізне — скрозь залатыя.
А ў целе, пад панцырам залатым,
Глуха б'ецца
Сытае сэрца —
Да ўсяго раўнадушнае, апроч золата.

## ЦВЫРКУН

Цвыркун аднойчы захацеў
Знайсці другую хату.
Ен закануранк цёмны меў —
Запечак цеснаваты.

Не маюць мэблі цвыркуны.
І ўночы, небарача,
Паклаў на тачку рызманы,
Каб іх ніхто не бачыў!

Каціў, пакуль не збіўся з ног,
То ўлева, то направа.

І тут цвыркун ажно знямог,
Ён трапіў у канаву.

Сава аднекуль — тут як тут!
Яна ўначы лятае.
Што ёй да нечых там пакут?
Яна слабых глытае.

І з'ела, беднага, жыўцом.
Ні следу, ні ўспамінаў!

Не будзь ніколі цвыркуном
І не мяняй хаціны!

## ЖОНКА РЫБАКА

Здалёку рыбак рукою махнуў —
Жонка яшчэ на парозе.
Вечар над шэраю прыстанню дзьмуў,
Лісце круціў у трывозе.

Дзверы яна зачыніла.
Чаму ж
Не адбіваецца ў люстры
Адзіны партрэт, дзе ўсміхаецца муж?
Чаму гэта ў люстры пуста?

Яна павярнулася ў страху.
Аднак
Партрэт — на сцяне, як бывала:

Сабаку трымаў на руках рыбак,
У рамцы ліловай, трывалай.

Зірнула ў люстэрка —
не ўбачыла зноў!

Але размаўляла з жаданым
І чула, як голас далёкі, без слоў,
Адказвае ёй праз туманы.

Зноў на парозе жанчына адна.
Сабака, па чорнай прыкмеце,
Вые ля студні...
Шуміць давідна
Над шэраю прыстанню вецер.

## ГОРА

І ложак, і лаўка на продаж пайшлі
З каровай і будкай сабачай.
Сялянскага ж гора прадаць не змаглі:
Яно і смяецца, і плача.

І гора адно засталося сядзець
Ля хаты пустой і халоднай.
Яно занудзілася,
стала глядзець
На ганак,
на галак галодных.

І, ўладу сваю ўразумеўшы,
затым
Паказвала волю і сілу:
Як месяц, гуляла з люстэркам малым,
І рэчы яно аднавіла.

Яно здабывала
з кавалачка шкла
Адбітак былога буфета,
І ложка, і лаўкі,
і нават стала
Ў сялянскай халупіне гэтай.

Пад месяцам доўга гуляла яно...
Камусьці ў адплату,
да ранку,
Ўсю ноч засланяла
пустое акно
Прададзеная фіранка.

## РУКІ МАЕЙ МАЦІ

Бяру я руку маёй маці
І ласкава сціскаю ў сваіх руках.
Так лампаду бяруць,
каб у хаце
Уначы пасвятлела па ўсіх кутках.

Пажоўклая скура, сухая,
Пазногці патрэсканы.
Але, аднак,
Я ўсю цеплыню адчуваю.
У пальцах натруджаных —
персіка смак.

І маці ў здзіўленні заўсёдным
Уважна ўглядаецца ў вочы мае:
«Ты, пэўна, сынок мой, галодны?»
Ніколі адвагі ў мяне не стае —
Сказаць,
як люблю яе моцна!
А мама руку адхіляе цішком:
Збаночак, як круглае сонца,
Ўзнімае і поіць мяне малаком.

## УСПАМІН

Ён захацеў сябе ўбачыць малым,
Што пад сонцам бяжыць басанож.
Зажмурыўся ён...
І, як быццам праз дым,
Да сябе прыглядаўся.
І што ж?

Як толькі расплюшчыў вочы ізноў,
Свой бядняцкі убачыў пакой.

Шыбу, дзе белы агонь маразоў,
І печ, дзе хоць трэсні —
ні трэскі якой!

А люстэрка — як дзірка ў сцяне;
І ў люстэрку ў сваім сутарэнні
Ён убачыў кагось, як у сне:

Хтось глядзеў на яго, у здзіўленні,
Наіўнымі, дзіцячымі вачамі
І плакаў над сівымі валасамі..

## СВЕТ ДЗЯЦЕЙ

Да Сіняй птушкі —
быццам крок!..
Мой кот? Не носіць ботаў кот.
Не размаўляе шэры воўк
Са мной паміж лясоў, балот.

Дзе каравела?
О сябры,
Не даў мне лямпы Аладзін.
Да Выспы Скарбаў я, стары,
Не даплыву цяпер адзін.

Але вясёлы свет дзяцей
Жыве ў душы. Дзівосны ён!

І ветрам казак і надзей
Захоплен,
трапіў я ў палон.

І радасцю дзіцячай я
Да скону буду даражыць.
І сэнс у гэтым бачу [redacted] —
Дзеля маленства варта жыць!

## ТУМАН

Ён з мехам бавaўняным
Прыйшоў і ўсё забраў.
Не бачна з-за туману
Ні кветак, ані траў.

Пад белаю заслонай
Схаваліся і клёны.
Здаецца, што цяпліца
Плыве і серабрыцца.

Самотна верабейка
Крычыць:
— Я тут,
Я — там!
Куды мне зараз дзецца? —
Не ведаю і сам!

## КАЛЫХАНКА

У лесе светлым
Колер лета
Шукаюць лісцікі і травы.
Іх шэпт ласкавы
Падслухаць часам
Нельга нават!

З крыніцы хоча
Дрозд напіцца.
Струмень бруіцца
Так ласкава, —
Яго падслухаць
Цяжка нават!

Калыску
Роднага дзіцяці
Люляе маці
Так ласкава, —
Падслухаць гэта
Цяжка нават!

## КРЫКІ ПТУШАК

Аб чым сініца не маўчыць?
— Ад радасці мне цёпла жыць!

Аб чым крычыць мой голуб мілы?
— Любоў і дружба — маюць крылы!

Цяпер паслухай берасцянку:
— Маё гняздо ў праменняў ранку!

Аб чым бядуе спеў зязюлі?
— А я шукаю дзетак. Чулі?

І жаўрука паслухаць трэба:
— Над галавой [redacted] маю неба!

Што каня ўсё крычыць-смуткуе?
— Мне срэбра трошачкі бракуе!

Сарока ўсё крычыць, здаецца:
— Той багацее, хто смяецца!

## КАХАНАЯ

Ты прыносіш мне хлеб,
поўны збан малака.
Будзе лепш,
як твая адпачне рука —
На маёй руцэ твая рука.

Ты напоўніш графін,
зноў запаліш агонь.
Даражэй, бліжэй, чым вада і агонь,
Бляск вачэй тваіх, твая далонь.

Ты і мёд, ты і хлеб, і жыцця майго соль.
І калі ў маім сэрцы грукае боль —
Ці не сэрца твайго гэты боль?

*II*

Бягуць па свеце шляхі развітанняў.
Са мной заставайся, маё каханне!
Хай губляецца дзесьці горыч тых пуцявін —
Між нізін, між далін
ці над змрокам ялін!

Ты прыслухайся!
Чуеш нашых сэрцаў прыбой,
Як зліваюцца разам
голас мой, голас твой?
Шоўк травы маладзенькай,
яблынь цень залаты —
Хіба гэта не ты?

Бягуць па свеце шляхі развітанняў,
Са мной заставайся, маё каханне!

*III*

І неба шэрае, каханая мая,
І дрэвы шэрыя, здаецца.
І свет, як шэры дым (калі сумую я),
На волю з каміноў імкнецца.

І хвалі шэрыя,
і шэры шум травы,
Таполі шэрыя наверсе.
І шэры, шэры шпіль царквы,
І шэры статак спіць пры лесе.

Калі б маглі, як пчолы, мы ўзлятаць —
Да красак разнаколерных прыпасці,
Калі б маглі сабе ўсё сонца ўзяць
І ў сэрцы нашым зберагчы, на шчасце!

## ФЛЕЙТА Ў САДЗЕ

Ды не зрабіў ты анічога,
Што добры след пакіне свой.
Так цень сарокі над гарой
Мільгне, схаваецца за стогам.

Самому ты сабе спяваў
І слухаў, у сябе ўлюбёны.
Іграў на флейце ў садзе сонным,
Не ведаючы іншых спраў.

Ты славіў бога, еў плады,
Але не думаў аб гаротных,
Хто корміць мазалём і потам
Усіх.
Табе такой бяды!

І вось цяпер, калі адзін
Свой сустракаеш вечар шэры, —
Мо толькі вецер стукне ў дзверы,
А болей не чуваць навін.

Рукой разгубленай зрываеш
Ты кветкі восені ў журбе,
Вянок сплятаеш для сябе
І ад сябе тугу хаваеш.

## ЗЯЛЕНЫ ЛІСТ

Кляновы ліст раскрыўся,
Як хлопчыка рука.
Расою ліст умыўся,
Вясёлку пагукаў.

Ён гушкаўся на сонцы,
Мінаючы імглу.
А потым на далоньцы
Ён калыхаў пчалу.

Было паветра смачным,
Ён лес агледзеў свой,
Падумаў лісцік:
«Значыць,
парадак і спакой!»

Багата ў лесе лісця —
Радня яго якраз.

Ён кажа:
«Нарадзіўся
Я ў свой, у добры час!»

Ён птушкам рад
і травам,
Ён рад цяплу вясны.
Аб гэтым ноччу нават
Яму прысняцца сны.

## НЯЎЖО НІКОЛІ, ЯК ДЗІЦЯ...

Няўжо ніколі, як дзіця,
Больш не здзіўляцца і не здзіўляць?
Ах! Стаў бы рэчкай між трысця —
Я неба змог бы адлюстраваць!

А можа б, летнім ветрам стаў,
Пшаніцу песціў, калыхаў.
...У садзе цені лапяць зноў
Старую прасціну часоў.

Ці ўспамінаеш яблык той —
Прыдуманы гадзіннік твой,
Які гайдаўся ля стаўка
На доўгай нітцы павука?

Няўжо ніколі не скакаць,
Як вольны жартаўнік-хлапчук?

У неба дыска не шпурляць,
Не рагатаць,
пачуўшы стук?

Няўжо не здзівіць больш мяне
Жыццё, як малады алень?
Не ўстане мой блакітны дзень
І ўзгоркі ў сонцы абміне?
Няўжо?..

## ТРУСІК І СМАЎЖЫХА

Трусік да смаўжыхі
Разагнаўся раз:
— Я на баль прыдворны
Запрашаю вас.

А смаўжыха кажа:
— Не скачу, шкадую.
Запрасіце даму
Спрытную, другую.

— Ці не сумна, пані,
Цесным жыць жыццём?
На гадзінку нейкую
Свой пакіньце дом!

— Мне ж хацінка служыць
Вопраткай адзінай.

З ракавіны выйду, —
Ў лужыне загіну!

— Ах, смаўжыха-пані,
Гэта ж перабор!
Чым не даспадобы вам
Каралеўскі двор?

— А люблю я, трусік,
Ручая напевы,
Ён мяне шануе,
Нібы каралеву.

— Густ правінцыяльны
Ў вас, мадам смаўжыха.
Што ж, сядзіце ў хаце,
Ды сабе на ліха!

— Ну, бывайце, трусічак,
Мудры вы, ой-ой!
Ды сказала яшчарка
Сёння раніцой...

— Што яна прыдумвае?
Брэша ўсё амаль!
Прэч ад вашай дурасці —
Пабягу на баль!

— Мне сказала яшчарка —
Ёсць у гэтым толк —
Там балююць весела,
Ды кароль наш... воўк.

## ТРА-ЛЯ-ЛЯ-ЛЯ-ЛЯ!

Уваходзьце ў круг!
Тра-ля-ля-ля-ля!
Круглая зямля,
Каб шпарчэй круціцца,
Яблыку — тра-ля! —
Кругламу каціцца!
Водзяць карагод,
Каб скакаў народ!

Патанцуем? Так!
Тра-ля-ля-ля-ля!
Раз і два, у такт,
Пачынай круціцца!
Круціцца вятрак,
Скача ў такт пшаніца.
Скача сонца ў полі:
Больш запалу, болей!

Эх, шалёны рух,
Тра-ля-ля-ля-ля!
Пашырайце круг!
Хай уся зямля
Скача ў карагодзе, —
Не кажыце — годзе!
Карагод гуляе
І людзей яднае!

*Ад перакладчыцы*

## ГІЕМ АПАЛІНЭР

**Незвычайная радаслоўная вялікага паэта Францыі.** Яго продкі — Кастравіцкія па лініі маці — паходзілі з Беларусі. Жылі яны ў маёнтку Дарашковічы пад Навагрудкам і сябравалі з сям'ёй Адама Міцкевіча.

Дзед паэта Міхаіл-Апалінарый Кастравіцкі прымаў удзел у паўстанні 1863 г. разам са сваімі братамі Юзэфам і Адамам. Браты былі высланы царскімі ўладамі ў Сібір і Арэнбург, а Міхаілу-Апалінарыю ўдалося ўцячы з сям'ёй у Італію.

26 жніўня 1880 года ў Рыме нарадзіўся будучы Апалінэр, запісаны пад прозвішчам маці — Кастравіцкі Вільгельм.

Як нашчадак рэвалюцыйнага эмігранта Апалінэр амаль усё жыццё не меў юрыдычных правоў. Толькі за восем дзён да ранення на фронце, 9 сакавіка 1916 года, ён атрымаў французскае грамадзянства.

Кнігі Апалінэра «Бестыярый, або Картэж Арфея», «Алкаголі», «Каліграмы» (Вершы міру і вайны) прынеслі Францыі вялікую паэтычную славу.

Паэт-шукальнік, наватар прайшоў праз траншэі першай сусветнай вайны і вынес адтуль нянавісць да яе жахаў і жорсткасці. У вершы «Перамога» ён звяртаўся да свайго сучасніка:

Ты разумееш радасць бачыць новае?

Паэзія Апалінэра і само жыццё паэта, яго складаны лёс захапілі мяне незвычайна. У выніку, у 1973 г., выйшла ў маім перакладзе на беларускую мову кніга выбраных твораў Гіёма Апалінэра «Зямны акіян». Апрача некалькіх вершаў з той кнігі прапаную чытачам новыя пераклады: «Заручыны», «Практыкаванне», «Каб уладу я меў».

Вершы Гіёма Апалінэра перакладзены з кніг:

«Alcools» (1898—1913), Paris, Éditions de la nouvelle revue Françoise, 1920 «Caligrammes», poémes de la paix et de la guerre (1913—1918), Paris, Librairie Gallimard; «Le Guetteur mélancolique», Paris, 1952, Gallimard.

## ПОЛЬ ЭЛЮАР

14 снежня 1895 г. у гарадку Сан-Дэні непадалёку ад Парыжа нарадзіўся Эжэн Эміль Поль Грэндэль, які праз дваццаць гадоў пачаў падпісваць свае вершы прозвішчам Элюар.

Удзельнік першай сусветнай вайны, калі ён быў санітарам, Элюар напісаў кнігі «Абавязак і трывога» і «Вершы для мірнага часу». Фарміраванне паэтычных прынцыпаў Элюара звязана з вялікімі зрухамі ў грамадскім жыцці. На пачатку сваёй творчасці паэт быў прыхільнікам сюррэалізму. У далейшай працы ён прытрымліваўся такога погляду: «Надышоў час, калі права і абавязак усіх паэтаў— сцвярджаць тое, што іх задача — глыбока ўваходзіць у жыццё іншых людзей, у агульнае жыццё... Усе вежы са сла-

новай косці будуць разбураны». На падзеі ў Іспаніі Элюар адгукнуўся ў трыццаць шостым годзе вершамі, прасякнутымі глыбокім чалавечым горам.

У час другой сусветнай вайны яго выдатны верш «Свабода» стаўся гімнам удзельнікаў Французскага Супраціўлення.

Глыбінёй думкі і высокім майстэрствам адзначаны зборнікі яго паэзіі: «Адкрытая кніга», «Паэзія і праўда 1942 года», «Вартыя жыць», «Твар у твар з немцамі» «Палітычныя вершы», «Грэцыя, ружа майго розуму», «Урок маралі», «Аблічча міру», дзівосныя кнігі лірыкі кахання «Ложак, стол», «Гарачая прага жыць», «Леда», «Фенікс».

Элюар быў верным другам Савецкага Саюза, двойчы прыязджаў у нашу краіну.

У 1953 г. паэт быў пасмяротна ўзнагароджаны Міжнароднай Ленінскай прэміяй «За ўмацаванне міру паміж народамі».

Выбранае Поля Элюара «З табою» выйшла ў 1980 годзе ў маім перакладзе.

Вершы Поля Элюара перакладзены з кніг:

Paul Eluard. Choix de poémes. — Paris: Gallimard, 1956; Poémes pour tous par Paul Eluard. Choix de poémes 1917—1952. — Paris: Les Editeurs Français Réunis, 1952.

## ЛУІ АРАГОН

«Супыніце агонь, каб наперад ішоў Чалавек!» — горача заклікаў Арагон людзей спыніць войны на зямлі, спыніць разбурэнне жыцця. Верш «Песня Міру» (кніга

«Вочы і памяць, 1954) быў напісаны пасля доўгіх і цяжкіх гадоў барацьбы супраць фашызму. У час другой сусветнай вайны, палымяны ўдзельнік Французскага Супраціўлення, Арагон стварыў кнігі пра гераічны лёс свайго народа і яго змаганне супраць акупантаў: «Нож у сэрца», «Панопты-кум», «Вочы Эльзы».

Вядомыя яго раманы «Велікодны тыдзень», «Пагібель усур'ёз» і іншыя.

Чалавек вялікай культуры, Арагон напісаў нямала эцюдаў, прысвечаных паэзіі. Асабліва вылучаюцца старонкі аб творчасці Гюго, Малармэ, Элюара.

У кнізе «Савецкая літаратура» Луі Арагон пазнаёміў французскіх чытачоў з беларускай паэзіяй. Ен пераклаў верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», урыўкі з твораў «Я не паэта» і «Над ракой Арэсай», верш Петруся Броўкі «Думы аб Маскве».

У 1957 г. Арагон быў адзначаны Міжнароднай Ленінскай прэміяй «За ўмацаванне Міру паміж народамі», а ў 1977 г. узнагароджаны савецкім ордэнам Дружбы народаў.

Вершы Луі Арагона перакладзены з кнігі:

Louis Aragon. Choix de Poémes. — Moscou: Edition en Langues étrangéres, 1959.

## РАБЕР ДЭСНОС

Імя Рабера Дэсноса пакінула незабыўны след у французскай паэзіі XX стагоддзя.

З маладых гадоў Дэснос сябраваў з Полем Элюарам, Луі Арагонам і іншымі сваімі сучаснікамі. Глыбінёй і тонкасцю пачуццяў вызначалася яго філасофская лірыка. Паэт пісаў і сатырычныя вершы, і байкі для дзяцей (кнігі «Цела і даброты», «Здабыткі», «Свабода альбо любоў» і інш.).

У час другой сусветнай вайны лепшыя людзі Францыі прымалі дзейны ўдзел у Французскім Супраціўленні. Сярод іх быў Рабер Дэснос.

У лютым 1944 г. ён быў арыштаваны гестапа. Свой «Апошні верш», прысвечаны жонцы, напісаў у Бухенвальдзе, у фашысцкім лагеры смерці...

Пасля гібелі Рабера Дэсноса выйшла ў свет некалькі кніг паэта, у тым ліку «Выбраныя вершы».

Беларускія пераклады зроблены з анталогіі французскай паэзіі для дзяцей «La poémeraie». — Paris: Editions Bourrelier, 1957 і з кнігі выбранага «Choix de poémes. — Paris: Éditions de Minuit, 1946.

## ЖАК ПРЭВЕР

Творчасць выдатнага французскага паэта Жака Прэвера вядома ў свеце многім прыхільнікам паэзіі.

Яшчэ ў 1960 г. Міхаіл Святлоў пісаў:

«У некаторых паэтаў бывае надакучлівая сацыяльнасць. І тады мы іх вершы больш разумеем, чым адчуваем. Жак Прэвер сацыяльны ў лепшым сэнсе гэтага слова...

У чым абаяльнасць яго творчасці? У тым, што мільёны незнаёмых людзей, чытаючы яго вершы, становяцца блізкімі між сабою».

Найбольш вядомая кніга паэзіі Жака Прэвера «Словы», якая ўжо даўно не дае мне спакою. Цікавасць уяўляюць кнігі паэзіі «Дождж і добрае надвор'е», «Відовішча», «Гісторыі».

Жак Прэвер з'явіўся аўтарам сцэнарыяў да фільмаў рэжысёра М. Карнэ «Дзеці райка», «Вячэрнія наведнікі», «Набярэжная туманаў», «Забаўная драма» і інш.

Вершы Жака Прэвера перакладзены з кнігі. Paroles. — Paris: Éditions Gallimard, 1949.

## МАРЫС КАРЭМ

Паэт-лірык Марыс Карэм пачынаў сваю дзейнасць як дзіцячы паэт.

Калі Карэм працаваў школьным настаўнікам, ён пісаў сваім вучням казкі, легенды, вершы. Дзеці былі яго першымі слухачамі і крытыкамі. Першую сваю кнігу для дзяцей ён выдаў на свае сродкі. Адначасова пісаў для дарослых. Глыбокімі ідэямі дэмакратызму і чалавечнасцю прасякнуты яго кнігі паэзіі. Жыццёвая аснова, яснасць формы вызначаюць характар кніг: «Маці», «Магічны ліхтар», «Голас

цішыні», «Белы дом», «Каханая» і інш. Многія яго творы пакладзены на музыку.

У 1975 г. Французская Акадэмія надала бельгійскаму паэту Марысу Карэму высокае званне «Прынца паэтаў».

Марыс Карэм быў другам савецкіх людзей, прыязджаў у нашу краіну, удзельнічаў у Пушкінскім свяце паэзіі.

Некалькі гадоў ён з'яўляўся старшынёй Бельгійскага Камітэта абароны міру.

Вершы Марыса Карэма перакладзены з кніг:

La Bien-Aimée. — Édit-Bruxelles, 1965; Brabant. — Édit-Bruxelles, 1957; Mer du Nord. — Édit.-Paris, 1967 L'Arlequin. — Paris, 1970; Entre deux mondes. — Édit.-Paris, 1970; Les entfantes. — Paris: Édit.-Bourrelier, 1957.

# ЗМЕСТ

## ЛУІ АРАГОН



## РАБЕР ДЭСНОС



## ЖАК ПРЭВЕР



*Літаратурна-мастацкае выданне*

# З ФРАНЦУЗСКАЙ І БЕЛЬГІЙСКАЙ ПАЭЗІІ





Рэдактар *В. С. Сёмуха*
Малюнкі *Анры Маціса*
Афармленне *А. І. Царова.*
Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *К. У. Дзмітрыенка*

ІБ № 3724

Здадзена ў набор 28.11.92. Падп. да друку 02.08.93. Фармат 60×90[1]/32. Папера кн.-часоп. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 3,0. Ум. фарб. адб. 3,13. Ул.-выд. арк. 2,97. Тыраж 1000 экз. Зак. 1162. Цана 200 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11



Ф84

**З французскай** і бельгійскай паэзіі / Пер. з франц., камент. Э. Агняцвет. — Мн.: Маст. літ., 1993. — 93 с.

ISBN 5-340-00947-5 (беларус.).

Зборнік «З французскай і бельгійскай паэзіі» склалі творы вядомых майстроў слова XX ст. — П. Элюара, Ж. Прэвера, Р. Дэснаса, М. Карэма і інш.

**Ф** $\frac{\mathbf{4703010200-118}}{\mathbf{M302(03)-93}}$ **166—92**

**84.4Фр—5+84.4Б—5**